Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 4000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 48.000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 8000 мк., сярод тэксту 7000 м. і на 4 стр. 6000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 10. Вільня, Серада, 19-га верасьня 1923 г. Год I.

## Трывожныя знакі.

Калі—пасьля забойства першага прэзыдэнта, Нарутовіча, стаяла адкрытым пытаньне аб тым, якая партыя возьме ў свае рукі уладу ў Польшчы і, разам з уладай, адказнасьць за ўсе магчымыя выпадкі,—адзін з найбольш выдатных паслоў „левіцы“ сказаў:

„*Цяпер* мы ўлады ня хочам браць. Няхай яе бяруць эндэкі і... праваляцца на гэтым! А як яны гэтак утрацяць у народзе ўсялякі ўплыў і даверые,—*тады* прыйдзе чарод на нас!“

Бязумоўна, разумеюць гэта дужа добра і тыя партыі, якія цяпер твораць польскі ўрад. Разумеюць і... робяць усё магчымае, каб, ня гледзячы на свой маральны „правал“, удзяржаць і на далей уладу ў сваіх руках.

Прыглядаючыся да таго, што робяць і што кажуць ў сваей прэсе сягоньняшнія „паны палажэньня“, мы бачым дужа трывожныя знакі, якія *суляць нядобрае.*

Нядобрае для ўсіх: і для самога польскага народу, і для „нацыянальных меншасьцяў“, на якіх „паны палажэньня“ стараюцца рознымі брахлівымі закідамі і нагаворамі *нацкаваць польскія народныя масы.*

Нацыяналістычныя газэты распачалі арганізаваны, пляновы паход проці „нацыянальных меншасьцяў“. Правінцыяльныя эндэцкія часопісі спэцыялізуюцца ня паадзінокіх нацыянальнасьцях. Так, обстаўскі „Dziennik Wileński“ дастаў ад эндэцкага „генаральнага штабу“ загад „атакаваць“ беларусаў і ў кожным нумары бязглузда лжэць, ня гледзячы на тое, што кожная брахня ўраз-жа высьвятляецца тымі, проці каго была скірована (гл. заявы збэшчаных Обстам ксяндзоў-беларусаў, пацягнуўшых Обста на суд, надрукаваныя ў № 15 „Przegl. Wil.“). А ўжо лейб-орган эндэцыі, „Gazeta Warszawska“, б'ець па ўсіх: адзін дзень ў перадавіцы выступае ў „обстаўскім“ духу проці беларусаў, другі—проці ўкраінцаў і іх паважанага правадыра мітрапаліта Шэптыцкага, трэці—проці польскіх немцаў і іх біскупаў на заходніх ўзьмежжках гаспадарства, ды ўрэшце—штодня—проці жыдоў... I ўсіх непалякаў эндэкі прадстаўляюць, як *небясьпечных загаворшчыкаў і заклятых ворагаў Польшчы*, якая ў сваю канстытуцыю ўвяла гэткія лібэральныя законы аб „меншасьцях“.... *на паперы.*

Аб тым, што ніводная з нацыянальных меншасьцяў Польшчы на дзеле ня мае магчымасьці карыстацца гэтымі „лібэральнымі законамі“, напісанымі толькі дзеля ўспакаеньня заграніцы, — эндэкі не ўспамінаюць. Не ўспамінаюць і таго, што меншасьці голасна крычаць перад ўсім сьветам аб польскім ўціску затым, што ім прост жыцьця тутака няма. Не ўспамінаюць, бо, каб сказалі аб ўсім гэтым свайму польскаму народу, дык той-бы напэўна зьдзівіўся і так лішняй „лёяльнасьці“ меншасьцяў у адносінах да тых, хто іх уціскае.... Затое эндэцкія агенты вынюхіваюць, падслухіваюць і падаюць ў свае газэты кожнае слова абурэньня, што вырываецца з душы даведзенага зьдзекам да роспачы чалавека.

Усё гэта мае зусім выразную мэту: падгатаваць польскі народ ужо ня толькі да штодзеннага ламаньня „лібэральнае канстытуцыі“, чым займаўся і сам пан Язэп Пілсудскі, але прост *да замаху на гэту канстытуцыю*, да поўнае зьмены яе, пачынаючы ад зьмены законаў аб „меншасьцях“. А раз гэткае „папраўляньне“ канстытуцыі пачнецца, дык ад яе—пры цяперашняй соймавай большасьці—нічога не астанецца....

Толькі гэтым замахам на канстытуцыю і можна вытлумачыць арганізаваны, пляновы паход проці нацыянальных меншасьцяў, распачаты зразу, як на каманду „зьверху“, усімі эндэцкімі газэтамі. Мэта паходу—запраўды ня гэтулькі самыя меншасьці, якім ад эндэцкае зьвягі нічога ня ўбудзе, а іменна *зьмена канстытуцыі.* I мы перакананы, што, калі праз цяперашні Сойм яе правясьці ня ўдасца, эндэкі ня ўстрымаюцца даляць свайго *па рэцэпту італьянскіх фашыстаў....*

На гэта ёсьць многа намёкаў. I зусім памылкова пан Пілсудскі прыносіў у ахвяру польскаму-нацыяналізму такую „драбніцу“, як нацыянальныя меншасьці: як-раз *на грунце нацыянальнага пытаньня абапруць польскія фашысты барацьбу з польскай канстытуцыяй...*

Скасаваньне-ж канстытуцыі, а мо' нават паварот ў кірунку *ўваскрасеньня ў „дэмакратычнай“ Польшчы манархіі*, аб чым лятуціць ў сваей душы кожны прававерны эндэк,—гэта пагроза ня толькі нацыянальным меншасьцям, але і ўсей *дэмакратыі Польшчы наагул.*

**Лаўрыновіч.**

## У справе дэпутата Сяргея Барана.

Мы ўжо пісалі, што ўсю справу беларускага дэпутата Барана Сяргея запатрабаваў на перагляд з Апэляцыйнага Суда Найвышэйшы Суд у Варшаве, дзякуючы пратэсту адваката Бабянскага, які ў справе заарыштаваньня дэпутата Барана паказаў на нарушэньне § 21 Польскай Канстытуцыі. Як мы даведаліся, Найвышэйшы Суд разгледзіць усю судовую справу і справу заарыштаваньня Барана 24 гэтага месяца.

Дэпутат Баран чуе сябе надта дрэнна. I раней ніколі ён ня мог пахваліцца здароўем, а цяпер пры цяжкім поўгалодным турэмным рэжыме чалавек і зусім пад'упаў, пачарнеў, разьвілося ў яго малакроўе. У Беластоку ён апошнія тыдні быў ў турэмным шпіталі; дактары пастанавілі рабіць яму зашчыківаньне за скуру мыш'яку. Нарыхтаваньне медыцынскай дапамогі і належнага сталаваньня вымагаюць, як на цяперашнія часы, значных коштаў, а дэпутату Барану Сяргею, хоць і нявыдадзенаму да гэтага часу Соймам, не высылаецца пасольская пэнсія з часу заарыштаваньня яго. Бацькі-ж яго, як мы ведаем, бедныя і належнага падтрыманьня яму даць ня могуць. Абавязкам для грамадзянства зьяўляецца падтрымаць свайго хворага дэпутата.

З 14 гэтага верасьня дэпутат Баран пераведзен з Беластоцкай у Горадзенскую турму. У Горадні-ж жывуць яго бацькі, якім лягчэй будзе пры адпаведнай дапамозе грамадзянства наладзіць сталаваньне і лячэньне хворага.

Судовая справа дэпутата Барана Сяргея, а роўна Веры Маслоўскай, Аўгені Матэйчук і інш., засуджаных Беластоцкім Акружным Судом, а таксама дэпутата Сымона Якавюка, які быў на судзе ў Беластоку апраўданы, але проці якога пракурор падаў апэляцыю, мае адбыцца ў Варшаўскім Апэляцыйным Судзе 23 кастрычніка г. г. Абаронцамі выступяць вядомыя адвакаты Т. Врублеўскі і А. Бабянскі.

## Паход проці Беларускае Гімназіі.

Год таму назад, калі паміж Беларускай Школьнай Радай у Вільні і Віленскім Школьным Кураторыюмам вяліся перагаворы аб прызнаньні за Віленскай Гімназіяй правоў „публічнасьці“,—адносіны Кураторыюму да нас былі даволі людзкія. Справа прызнаньня правоў была, праўда, адложана да вясны, калі выясьняцца вынікі гадавое працы вучняў, але за тое Кураторыюм аказала некаторую грашовую помач Гімназіі, згодзіўшыся зацьвердзіць чатырох вучыцялёў, як „этатовых“, з аплатай іх працы ўрадам.

Пасьля выбараў у Сойм і Сэнат адносіны Кураторыюму да Віленскае Беларускае Гімназіі пачынаюць псавацца. Замест чатырох „этатаў“ выплачываюцца толькі тры. Але, пакуль яшчэ быў урад ген. Сікорскага, адносіны гэныя ня мелі яўна варожага характару. Так, Віленскае Кураторыюм аднеслася да Гімназіі зусім справядліва, калі пасылала ў міністэрства справаздачу аб нашай Гімназіі. Міністар прасьветы, п. Мікуловскі-Поморскі, папярэднік п. Гломбіньскага, заявіў старшыні Беларускае Цантральнае Школьнае Рады, паслу Тарашкевічу, што, згодна з дакладам Кураторыюму, Віленская Беларуская Гімназія пастаўлена зусім здавальняюча з усіх пунктаў гледжаньня. Калі-ж мінулай вясной у Вільні адбываўся зьезд беларускіх вучыцялёў сярэдніх школаў Заходняе Беларусі, сам пан Куратар быў прысутны на яго адкрыцьці, а прадстаўнікі Курарыюму і Дэлегатуры ўвесь час былі прысутны на засяданьнях зьезду.

Бадай ці ня гэты зьезд, паказаўшы, як паважна пастаўлена ў беларусаў справа сярэдняе адукацыі, *у сувязі з адбыўшайся зьменай ураду* і ўсяго ўрадовага палітычнага курсу, адкрывае сабой новую эру ў адносінах Кураторыюму да Віленскае Беларускае Гімназіі. *Адносіны гэтыя стаюцца зусім выразна варожымі.*

Кураторыюм, пад уплывам „ветру“ з Варшавы, становіцца на той пункт гледжаньня, што „ў чыстапольскай Вільні“ ня можа быць месца для беларускай сярэдняй школы. Трэба думаць, што на гэты пункт гледжаньня станула ня толькі Кураторыюм, але і Дэлегатура: першы ўдар па Гімназіі зроблен іменна апошняй.

Мы маем на думцы пастанову Дэлегатуры аб канфіскацыі Базыльянскіх муроў, дзе, побач з Гімназіяй, месьціцца беларускі музэй ім. Івана Луцкевіча і другія беларускія культурныя ўстановы (прытулак для бедных дзяцей і т. п.). Пастанова гэтая, як гэта ў свой час выясьніла беларуская прэса, ня мае пад сабою ніякае праўнае падставы і можа быць растлумачана выключна, як *жаданьне ўлады пазбавіць беларусаў іх сядзібы.*

Сьледам за гэтым *Кураторыюм пазбавіла Віленскую Беларускую Гімназію* і тае невялічкае *дапамогі*, якую датуль давала, у пастаці трох „этатаў“.

Чародны крок—*забарона шасьцём вучыцялём* Віленскае Беларускае Гімназіі *выкладаць у ёй* на тэй аснове, што яны ня мелі польскага „обыватэльства“. Але адначасна з гэтым бадай палова іх была *дапушчана* тым-жа Куратарыюмам на становішчы *вучыцялёў у Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі і ў расейскіх гімназіях*: там „обыватэльства“ аказалася непатрэбным...

Урэшце, Куратарыюм зрабіла яшче адзін крок дзеля развалу Віленскае Гімназіі, вынікі якога выявіліся 17 гэтага верасьня. З прычыны таго, што, нават і абвесьціўшы Базыльянскія муры „дзяржаўнаю ўласнасьцяй“, улада ня мае права выкінуць з іх Гімназію, без адпаведнага прыгавору суда,—Куратарыюм „запрапанаваў“ Рэктару Віленскае Духоўнае Сэмінарыі, архім. Піліпу, маскалю, варожа настроенаму да беларусаў, каб Сэмінарыя перанесла свае заняткі з вячорных гадзін, аб чым быў на паперы ўгавор паміж Эпархіяльнай Радай і Белар. Таварыствам дапам. ахв. вайны, на ранічныя гадзіны, калі, згодна з тым-жа ўгаворам, клясамі карысталася Гімназія. І архім. Піліп, пагаліўшыся на „панскую ласку“, стаўся паслухмяным інструмэнтам у руках Куратарыюму, маючы, як кажуць, абяцанку, што Сэмінарыя будзе зроблена ўрадовай,—ведама, з увядзеньнем у ёй навукі па польску... Арх. Піліп, абаламуціўшы нядаўна адбытае Эпархіяльнае Сабраньне, катораму прадставіў фальшывыя ведамасьці аб тым, што ў вечары Сэмінарыя прымушана вельмі дорага плаціць за электрычнасьць—(запраўды-ж за асьвятленьне сэмінарскіх клясаў плаціла, згодна з успомненай умовай, Гімназія, а не Сэмінарыя), дабіўся ад гэтага Сабраньня пастановы, што заняткі Сэмінарыі павінны адбывацца раніцай. Так сама абаламуціўшы Архіэпіскапа, ён дабіўся ад апошняга зацьверджаньня пастановы Эпархіяльнага Сабраньня. І вось, хаця падпісаўшыя ўмову аб Базыльянскіх мурох стараны — Белар. Т-ва дапам. ахв. вайны і Эпархіяльная Рада (цяпер замененая Кансысторыяй)—умовы гэнае не зьмянілі,—17 верасьня ў 6 гадзін раніцы, на гадзіну перад прыходам вучняў Гімназіі на заняткі, *адміністрацыя Сэмінарыі*, відаць, пэўная заступніцтва ўлады, *зламала замкі ў памяшчэньні Гімназіі і гвалтам захапіла гэтае памяшчэньне,* загадаўшы сэмінарыстам — будучым сьвяшчэнікам! — сілай няпускаць у класы вучняў Гімназіі...

Замест пакіраваць справу аб гэтым крымінальным праступку адміністрацыі Сэмінарыі да пракурора, беларускае грамадзянства зьвярнулася з жалабай на дзікі гвалт, учынены арх. Піліпам, да вышэйшае царкоўнае ўлады. Але ня ў гэтым справа: справа ў тым, што ініцыятарам учыненага над беларусамі гвалту зьяўляецца Куратарыюм, аб чым чытаем і ў рэзалюцыі Эпархіяльнага Сабраньня.

Такім парадкам перад намі раскрываецца цэлы пляновы паход улады, якая законнымі дарогамі ня мае магчымасьці разбурыць найлепшую, наймацнейшую з усіх бакоў, Віленскую Беларускую Гімназію і дзеля гэтага хапаецца за спосабы зусім нязгодныя ані з канстытуцыяй гаспадарства, ані... з дастаенствам самае ўлады!

Ведама, усе гэтыя крокі самі па сабе ня могуць дапяць мэты Куратарыюму—ня могуць прымусіць Віленскую Беларускую Гімназію пакінуць Вільню і перабрацца ў якое-колечы малое мястэчка, дзе кожны паліцыянт мог-бы спакойна зьдзекавацца над ёй і дзе немагчыма было-бы рабіць тую культурную творчую працу, на чале якое стаіць Вільня наагул. І калі Гімназіі не дадуць вучыцца ў дзень, яна будзе вучыцца паабедзе, як дагэтуль рабіла Сэмінарыя і як робяць іншыя польскія гімназіі ў Вільні. Але гэтыя здарэньні павінны згуртаваць беларускія грамадзкія сілы дзеля падтрыманьня Гімназіі і дзеля таго, каб *раз назаўсёды забясьпечыць ёй адпаведнае памяшчэньне: свой уласны дом.*

Праўда, нашае грамадзянства—беднае, а купля дому цяпер—на польскія маркі — для нас блізу недаступна... Вось, мы і *зварачаемся з гарачым прызывам да нашых заакіянскіх братоў—да беларускае эміграцыі ў Амэрыцы: памажэце нам у гэтым!* Сабраць пяць-дзесяць тысяч даляраў — гэта зусім ня так цяжка для Амэрыкі, а за гэтую суму можна стварыць моцную, непарушную аснову для істнаваньня Віленскае Беларускае Гімназіі — тае кузьні, у якой творацца падваліны беларускае сярэдняе школы наагул!

**Ст. Мірскі.**

# Сялянскі беларускі тэатр.

Вядомы расейскі публіцыст і тэатральны крытык Х. Херсонскі зьмесьціў у Маскоўскіх „Известиях“ за 7. IX г. г. артыкул аб беларускім мастацтве, у якім піша:

„На выстаўцы і па маскоўскіх фабрыках, клюбах раённых тэатрах выступае трупа беларускага тэатра, прыехаўшая з Менску на ўсясувязнае [1]) сялянскае сьвята—агляд.

Яе спэктаклі й песенныя концэрты карыстаюцца ўсюдых вялікім посьпехам. Часта пасьля спэктакляў глядзеньнікі-сяляне й работнікі асабліва цёпла дзякуюць артыстам-беларусам і наказуюць імі „гарачае прывітаньне беларускім работнікам і сялянам, стварыўшым гэты тэатр.“ Выступы беларускага тэатру шмат спрычыніліся дзеля знаёмства з Беларусьсю экскурсантаў усіх іншых нацыяльнасьцяў С.С.Р.Р. й работніцкіх масаў Масквы.

У новай Радавай „Чырвонай Беларусі“ тэатр маець асобнае значаньне. Адраджэньне беларускага народу ў галіне культуры стравуецца, галоўным чынам, сваёю новаю літэратураю й тэатрам. Тэатр стаіць ў асяродку працы беларускіх культурнікаў, літэратараў, поэтаў, як найбольш жывая пляцоўка народнае творчасьці. Адраджэньне беларускае культуры йдзець суздром ад мужыцкага сялянскага народа і яго інтэлігенцыі—выходнікаў з сялянства, якія ізноў вярнуліся да свайго „мужыцкага“ народа дзеля рэвалюцыйнае й культурнае працы—ў мінулыя гады ў закутках пад уціскам жандарскага рэжыму царызма, цяпер як авангард культуры радавае работніцка-сялянскае Беларусі.

Грунтоўны кірунак творчасьці беларускага тэатру сымболічна выяўлен у п‘есе маладога агульна-знанага беларускага поэта Міхася Кудзелькі—„На купальле“ (музыка Тэраўскага). Гэта шуканьне свае „кветкі шчасьця“, якім у больш шырэйшым сэнсе жывець цяпер увесь беларускі паўстаючы зо сну народ. Жыцьцярадаснасьць, музыкальнасьць, беспасярэдняе захапленьне, моладасьць скрозь даюць беларускаму тэатру тую псыхічную падмуроўку, дзякуючы якой ён карыстаецца гэткім посьпехам. Дзеля таго, калі ў сваіх спэктаклях гэты тэатр расчыняе адну за аднэй старонкі з жыцьця беларускага сялянства, ўздумвае на ўціск, мучэньні, прыпадкі з свайго жыцьця („Машэка“, п‘еса Міровіча і інш.) ці ў сваіх харавых народных песьнях наўпамінае а бытаваньні свае вёскі,—заўсёды яго творчасьць гучыць пераможна, як пачатак новага жыцьця, як сьвята.

Аднэй з вартасьцяў беларускага тэатру ёсьць тое, што дзякуючы сваей моцы ў музыкальнасьці й песьні ён блізкі да тэатру Музыкальнае драмы. Шмат чым ён блізкі да ўкраінскага тэатру, але ў яго ёсьць свае ўласна-абразныя асаблівасьці. Выбіраючы артыстаў з народу, пяюноў, цынбалістаў, дудароў, лернікаў, стаўляючы свае нацыянальныя п‘есы, гэты тэатр у той-жа час ня мае небясьпекі перавярнуцца ў штучную этнографічную цацку, затое што ўся яго праца скірована дзеля шырокіх сялянскіх гушчаў свайго краю (прамысловых работнікаў—беларусаў дужа мала), і тэатр жывець у бязупыннай супольнасьці з імі і толькі дзеля іх.

У справах пастаноўкі яшчэ ня дужа даўна беларускі тэатр быў зусім прымітыўны [2]), але за апошнія гады ўпорчывае працы пад умелым кіраваньнем свайго рэжысера Міровіча й пры супрацоўніцтве ўсіх беларускіх літэратурных, мастацкіх і культурных дзеячоў, ён хутка расьцець і мацнеець. У яго ёсьць яшчэ, пэўна-ж, хібы, але галаўное забясьпечваець яму посьпех—гэта выяўленьне народнага сялянскага зьместу (садзяржаньня) ў народных-жа ўласна-абразных формах творчасьці, рэвалюцыйны шлях яго рэпэртуара і ўпорчывая глыбока захопленая праца.

# Палітычныя падзеі.

## Пераварот ў Гішпаніі.

Пад той час, як польскія чорнасоценныя элемэнты йшчэ толькі рыхтуюцца да перавароту на карысьць манархіі ў Польшчы,—гішпанскія фашысты перайшлі ад слоў да дзела і зрабілі вайсковы пераварот, скінуўшы стары парляманцкі ўрад і завёўшы новы—дыктатарскі—ўрад генарала Прімо Рівэра.

Фашыстаўская рэвалюцыя ў Гішпаніі адбылася паводле рэцэпту італьянскіх фашыстаў. Збунтаванае сваімі генараламі войска выступіла проці канстытуцыйнага ўраду і, прызнаваючы ўладу караля Альфонса, патрэбавала дыктатуры генарала Прімо Рівэра. Кароль прыстаў на дамаганьні генаралаў і войска і споўніў усё, чаго тыя хацелі.

Розьніца паміж італьянскім пераваротам і гішпанскім— ў тым, што ў Гішпаніі выступіла на арэну войска. І гэта зусім зразумелая рэч, калі зьвернем увагу на тое, за што быў скінуты стары ўрад. Справа ў тым, што і грамадзянства, і парлямант, і ўрад — ўсе ў Гішпаніі настроены мірна і не хацелі дапусьціць аружнага выступленьня ў гішпанскай калёніі ў Марокка, дзе ўсьцяж адбываюцца звадкі з туземцамі. Наадварот, вайсковыя, для каторых вайна—гэта багатае жніво, ўсімі сіламі стараліся накланіць ўладу да вайны. На гэты ўдзячны грунт і ўпаў пераваротны пасеў фашызму, —і новы ўрад, як паведамляюць газэты, маніцца ў першы чарод разагнаць парлямант, каб без перашкодаў распачаць крывавае „усьмірэньне“ і масавы рабунак мараканцаў.

Гішпанскія сацыялісты, аднак, не пакарыліся фашыстам. Урад сацыялістычнае партыі выпусьціў праклямацыю, заклікаючы работніцкія масы да барацьбы з вайсковай дыктатурай. Гэтак гішпанскім фашыстам — так сама, як і іх польскім аднадумцам, — рана сьвяткаваць сваю перамогу: ў Гішпаніі можа ўзгарэцца крывавая хатняя вайна, ў якой ўвесь народ будзе на старане парляманту, а проці яго будзе войска.

### ПОЛЬШЧА.

У справе споркі паміж польскім ўрадам і нямецкай меншасьцяй з прычыны пакрыўджаньня нямецкіх каляністаў, на што апошнія пажаліліся Лізе Нацыяў, Сталы Міжынародны Судовы Трыбунал ў Газе вынес прыгавор гэткага зьместу:

„Сталы Міжынародны Судовы Трыбунал высказаў пагляд, што справа паступкаў Польшчы ў адносінах да некаторых нямецкіх каляністаў уваходзіць ў компэтэнцыю Лігі Нацыяў, і што становішча Польшчы было нязгодным з яе міжынароднымі забавязаньнямі“.

Гэты першы прыпадак прызнаньня Міжынародным Трыбуналам нарушэньня Польшчай яе забавязаньняў у адносінах да нацыянальных меншасьцяў вэжны як сам па сабе, так і затым, што немцы самі безпасярэдня зьвярнуліся з жалабай ў Лігу Нацыяў, і зроблены з гэтае прычыны Польшчай адвод ня быў Лігай Нацыяў прыняты пад увагу.

Старшыня чыгуначнай дырэкцыі ў Катовіцах інж. Носсовіч назначаны міністрам чыгунак на места звольненага Карлінскага.

Міністар фінансаў Кухарскі ў часе прабываньня ў Лёндыне зрабіў візыт ангельскаму міністру фінансаў, адбыў нараду з губэрнатарам ангельскага банку, з групай капіталістаў Моргана, якія цікавяцца гаспадарчымі справамі Польшчы, а таксама з п. Іоунгам, які, як мы ўжо паведамлялі, будзе экспэртам у справе польскіх фінансаў і прыедзе ў Польшчу ў пачатку кастрычніка.

Нарада прадстаўнікоў партыі „Wyzwolenie“ і групы Донбскага закончылася. Пастаноўлена аб‘яднацца ў адну народную партыю пад назовай: „Związek Polskich Stronnictw Ludowych „Wyzwolenie“ i „Jedność Ludowa“. Пастанова павінна быць зацьверджана конгрэсам абедзьвюх партый.

Адбылося паседжаньне Галоўнай Рады P. P. S. Прыняты тэзы рэзолюцыі, запрапанаваныя паслом Недзялкоўскім: 1) соцыяльная і гаспадарчая палітыка ўраду п. п. Вітоса і Глоньбінскага вядзе да зруйнаваньня дзяржавы і зьяўляецца шкоднай для работніцкай клясы; 2) банкруцтва гэтай палітыкі ёсьць абавязкова; 3) т. зв. беспартыйныя ўрады могуць быць толькі часовым компромісам; 4) лёзунгам работніцкага руху зьяўляецца прызваньне да жыцьця народнага работніцка-сялянскага ўраду з выразнай дэмократычнай праграмай.

У Баранавічах адбылася нарада паміж прадстаўніком міністэрства ўнутраных справаў і ваяводамі віленскім, палескім і навагрудзкім у справе барацьбы з бандамі, рабункамі і падпаламі двароў, чым быццым-то займаюцца пераходжыя з-за гранічнае мяжы людзі.

У найбліжэйшым часе уздоўж усяе граніцы з С. С. Р. Р. замест войска варту будзе адбываць паліцыя, дзеля якое загадана пабудаваць 200 казармаў. Работа мае быць закончана да месяца лістапада.

„Gaz. Warsz.“ піша з абурэньнем аб бойцы, якая ўзьнялася ў нейкім шынку ў м. Грудзёндзу, на Паморыі. Старшыня тамтэйшага „Кола Абароны Заходніх Крэсов“ запротэставаў проці таго, што група немцаў, седзячы за сталом, пяяла нямецкую патрыятычную песьню,—за што пяяўшыя крэпкі яго пабілі.

Імёны бітага і біўшых выклікаюць, аднак, нейкае недаўменьне. Гэта: Тітэнбрун, Эгерт, Клейс, Блюм і Вітт. Няхай-жа нашы чытачы разгадаюць загадку: хто з іх быў „палякам“?

### Гаспадарка самаўрадаў.

Гаспадарка буржуазіі ў павятовых Сойміках давяла іх да катастрофальнага палажэньня. У зусім бязвыхадным палажэньні апынуліся соймікі ў нас на „Крэсах“.

Недахват срэдстваў прымушае іх спыняць распачатыя працы, як будову школаў (нават польскіх) і інш. Нехапіла нават грошы на выплату ўрадоўцам дадатку на дарагоўлю. Касы пустуюць і папоўніць іх няма чым. Недабор у буджэце соймікаў правышае часта 70—80%. Напр. Лідзкі соймік ў 1.047 мільёнавым буджэце мае 780 мільёнаў недабору; Валожынскі—ў буджэце 1.167 мільёнаў—1.080 мільёнаў недабору; Стаўпецкі—у буджэце 687 мільёнаў—520 мільёнаў недабору і г. д.

### НЯМЕЧЧЫНА.

Паміж нямецкім і францускім урадамі йдуць далей неафіцыяльныя пакуль-што перагаворы, якія здаецца, павінны гэтым разам даць нейкія вынікі. Нямецкі ўрад, як зьявіў у Нью-Йорку б. канцлер Куно, прызнаў, што Нямеччына павінна выпаўніць тыя забавязаньні, якія вынікаюць з перамогі Францыі.

[1]) Разумеецца „С. С. Р. Р.“—пабеларуску: Сувязь Соцыялістычных Радавых Рэспублік. *Рэд.*

[2]) Просты, нявыдумны. *Рэд.*

Аднак фінансавае палажэньне Нямеччыны з кожным днём становіцца ўсё цяжэйшым. Курс даляра ў Бэрліне 15 верасьня быў 120 мільёнаў марак, а англійскага фунта—550 мільёнаў.—У тым тыдні ўрад выпусьціў банкноты па 100 мільёнаў марак, цяпер-жа будуць друкаваць па 500 мільёнаў і па мільярду.

Ня гледзячы на ўсё гэта, можна спадзявацца, што, як толькі ўладзіцца справа Руры, палажэньне Нямеччыны зразу паправіцца, дзякуючы заграпічнай пазыцы. Як паведамляюць з англійскіх крыніц, у такім прыпадку Нямеччына атрымае пазыку ў суме аднаго мільярда даляраў, якая будзе пад кантролем Лігі Нацыяў.

## БАУГАРЫЯ.

З прычыны выяўленьня рэвалюцыйнае дзейнасьці камуністычнае партыі, якая вяла шырокую агітацыю сярод войска, баўгарскі ўрад загадаў арыштаваць часьць лідэраў камуністаў і зачыніць камуністычны клюб у Софіі.

## Грэцыя і Югаславія.

З прычыны таго, што і Грэцыя і Югаславія маюць сур'ёзныя разрахункі з Італіяй, якая цікуе на сумежныя землі гэтых краін,—у Афінах і Белградзе пачаліся перагаворы аб ваенным саюзе паміж Грэцыяй і Югаславіяй.

Як відаць, вера ў Лігу Нацыяў усюды зьнікае, і ўсе больш пачынаюць верыць у сілу свайго аружжа.

Так выглядае мір у Эўропе на аснове вэрсальскіх трактатаў...

## Малая Антанта.

„Journal de Geneve" наказывае, што на конфэрэнцыі „малое антанты" ў Сінайі пастаноўлена выставіць ад імя апошняе кандыдатуру ў Раду Лігі Нацыяў вядомага чэскага міністра Бэнэша, асабліва няпрыемнага для Польшчы.

Гэтак „малая антанта" выразна пайшла ў кірунку, непажаданым для польскае палітыкі.

## ЛІТВА.

„Gazeta Warszawska" пераказвае чуткі, быццам у Клайпэдзе творацца спэцыяльныя вайсковыя часьціны, якія быццам-то маюць быць ужыты дзеля паходу на Вільню. У гэтыя часьціны паступаюць нямецкія жаўнеры і афіцэры.

## С. С. Р. Р.

Паводле ўрадовых ведамасьцей, за ліпень г. г. з С.С.Р.Р. вывезена больш за 21 мільёнаў пудоў розных тавараў на суму 17 мільёнаў залатых рублёў.

Праз Рэвельскі порт вывозіцца многа збожжа, ня гледзячы на неўраджай у паўночна-заходніх губэрнях. Ужо пачалі прыбываць цягнікі з збожжам сёлетняга збору. За адзін дзень 8 верасьня прыйшло ў Рэвель, каля 100 вагонаў жыта і аўса. Усяго праектуецца вывязьці заграніцу праз Рэвель каля 15 мільёнаў пудоў збожжа.

---

Расейскія эміграпцкія часопісі заграніцай наказываюць аб вялікай дапамозе немцаў у арганізацыі чырвонае арміі.

Але асаблівую сэнсацыю будзіць праект цясьнейшага аб'яднаньня Нямеччыны, Саюза Социялістычных Радавых Рэспублік і Японіі. Праект гэты апрацовываецца ў Маскве прадстаўнікамі радавых рэспублік і нямецкім паслом. Такое аб'яднаньне, ў каторым С.С.Р.Р. даў-бы фізычную людзкую сілу, Нямеччына—свае тэхнічныя сілы для фабрык і арміі, а Японія свой флёт, было-бы нязвычайна магутным і выклікае трывогу ў варожых да С.С.Р.Р кругах.

---

Львоўскія газэты даюць гэткія ведамасьці аб нацыянальным складзе камуністычнае партыі. Аказваецца, што на ўсім прасторы С.С.Р.Р. партыя мае 385.693 сяброў, у тым ліку: вялікарусаў—270.409, украінцаў—22.000, беларусаў—5.555, палякоў—5.000, латышоў—9.512, жыдоў—19.564.

# З газэт.

## Польская прэса аб беларусах.

Усё больш і больш узрастаючая опозыцыйнасьць няпольскіх „Kresów" з прычыны палітыкі бязпрыкладнага зьдзекаваньня над „інародцамі" зварочвае на сябе увагу як польскае дэмократыі (ведама, праўдзівае), так і польскае правіцы. Ды як-жа розна ўзіраюцца на гэты ваюючыя між сабой польскія групы!

Адзін з найстарэйшых—і, можам адзначыць, —найбольш шчырых прадстаўнікоў дэмократычнае ідэі, п. А. Бабяньскі, апісвае на страніцах газэты „Kurjer Polski" ўсе тыя зьдзекі, якія, як вядома, церпіць пад польскаю ўладаю беларускі народ: як у працягу васьмі месяцаў у Вільні ўлада зачыніла пяць беларускіх газэт, як „зьліквідаваны" сотні беларускіх народных школ у Беласточчыне, Навагрудчыне, ды Віленшчыне, як для беларусаў зачыняюцца дзьверы польскіх унівэрсытэтаў, што прымушае беларускую моладзь ехаць дзеля вышэйшае адукацыі ў варожую да Польшы Прагу, ці Бэрлін,—і г. д.

Адміністрацыя ад часу выбараў з асаблівай энэргіяй кінулася выкрываць змовы, быццам-то пераваротныя імкненьні, да якіх залічаны насамперш беларускі рух у-ва ўсіх яго відах і кірунках. Большасьць інтэлігенцыі была арыштавана і звольнена, прыгатаўляюцца новыя палітычныя працэсы, якія толькі распаліваюць палітычную агітацыю. Беларускія паслы—як быццам недатыкальныя, але якраз іх і стараюцца ўсялякімі способамі „даткнуцца" і трымаць на аброці. Некаторых судзяць і засуджаюць без канкрэтных даных,—іншых „разьясьняюць"... Атрымліваньне „obywatelstwa" сталася наагул нейкім скараньнем для няпольскага насяленьня краю.

Такія мэтады не згаджаюцца з констытуцыяй 17 марца, капаюць і паглыбляюць пропасьць, якая разьдзяляе абодва народы, а сярод беларускіх дзеячоў крапчэе перакананьне, што *ўрадовая ўлада імкнецца да поўнага вынішчэньня беларускага народу.* У гэты мамэнт справа йдзе не аб палітычныя вехі ў шырэйшым стылю, а толькі аб прынцып: ці народ беларускі мае права на жыцьцё і на разьвіцьцё сваей культуры? Трэба памятаць, што раз узьняўшыяся нацыянальныя рухі—гэта быццам трава на вясну: непагадзь можа прыпазьніць яе рост, але ня можа яе зьніштожыць.

Так кажа п. Бабяньскі. Але яго голас сярод польскага грамадзянства—гэта быццам голас гукаючага ў пустыні. І гэта адносіцца на толькі да эндэкаў, але і да польскіх „сацыялістаў"—пілсудчыкаў. Так, у памянутым ужо ў нашай часопісі ліхім словам месячніку „Droga" п. Леон Васілевскі, каторы *праспаў дваццаць гадоў творчае культурнае і палітычнае працы беларусаў,* паўтарае свае сьлямазарныя словы з кніжкі „Litwa i Białoruś" аб тым, быццам беларусы—гэта

> „племя з даволі слабай нацыянальнай індывідуальнасьцяй, з мала разьвітым пачуцьцём нацыянальнае сьвядомасьці і яшчэ даволі ніклым палітычна-нацыянальным рухам.

П. Васілевскі „ня ведае" аб беларускім дзяржаўным будаўніцтве, хоць... тут-жа прызнае, што варункі для разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху ў Радавай Беларусі ці ў Расеі шмат лепшыя, як у Польшчы. І гэты „сацыяліст" і „дэмакрат" заяўляе, што ён нічога ня мае проці „стыхійнае палянізацыі беларусаў-каталікоў", хаця дужа добра ведае, што гэта „стыхійнасьць" праводзіцца дарогай самага цяжкага ўціску і гвалтаў...

Ня дзіва пасьля гэтага, што эндэкі „языкі развязалі" ў бязглуздай брахні: іх „супрацоўнікі" і канкурэнты на ўладу—роўнацэнны ім!...

П. Паннэнкова йдзе далей за п. Васілевскага і ў газ. „Rzeczpospolita" проста кажа, што ніякіх беларусаў наагул няма на сьвеце, што гэта толькі „warchoły" з левіцы—польскія радыкалы—займаюцца „беларушчаньнем" мужыкоў (ведама, „польскіх"!), ды што гэта канчаецца „абмаскоўленьнем і зваротам да суседняе дзяржавы" (—Расеі). Збэсьціўшы па хуліганску беларускіх паслоў і нацыянальных дзеячоў, п. Паннэнкова заклікае ўрад, каб урэшце „скончыў з імі" і завёў „лад на Крэсах".

Ізноў „Kurjer Warszawski" дае ўраду такі плян зьніштажэньня беларусаў: сялян трэба спольшчыць дробнымі канцэсіямі эканамічнага характару, а інтэлігенцыю—аддаць у рукі паліцыі. Тады народ астанецца без галавы. Газэта кажа:

> „Большасьць цяперашняга пакаленьня гэтае інтэлігенцыі палае дзікай ненавісьцяй да Польшчы. Адносна да яе трэба проста перайсьці да парадку дня, аддаўшы толькі пад апеку паліцыі".

Толькі-ж бяда, што, як піша „Gazeta Warszawska", і сярод народных масаў—нават у Палесьсі, дзе якраз найменш беларускае інтэлігенцыі,—разьвіваецца дужа благі пагляд на Польшчу і польшчаньне „Kresów". Газэта друкуе пісьмо нейкага п. Р. Лянге з Малодава, недалёка ад Тэлеханаў, дзе адбываюцца рабункі двароў бандамі грабежцаў. Сяляне спагадаюць гэным бандам і палаюць ненавісьцяй да польскіх паноў.

> „Альфа і омэга іх імкненьняў—гэта „рэзаць паноў і дзяліць зямлю". Зусім адкрыта называюць імёны паноў, якіх хацелі-бы гэткім спосабам пазбыцца... *Аб польскай школе і слухаць ня хочуць,* хаця польскую мову добра разумеюць. Кажуць, што гэная мова лішне трудная для іх і іхніх дзетак, а да таго польскае панаваньне лічаць дачэсным і кажуць, што на кароткі час вучыцца па польску „ня варта"...

Здаецца, што такую народную масу ня так лёгка спольшчыць, хоць-бы ўрад і выпаўніў плян, надрукоцы ў „Kur. Warsz.": адсек-бы галаву беларускай інтэлігенцыі.

Ня дзіва, што пры такіх „блікучых" выніках сыстэмы ўціску беларусаў прыходзіцца тварыць спэцыяльныя таварыствы, якія „памагалі-бы" ўладзе ў апалячываньні беларусаў. Ня дзіва, што на „этнаграфічна-польскіх" крэсах аказваецца патрэба ў працы таварыства „Opieki nad Kresami", каб апекавацца... тамтэйшай „польскай меншасьцяй"!

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## ХРОНІКА.

**Пленарнае паседжаньне Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні.** Прэзыдыум Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні просіць ўсе беларускія арганізацыі, якія ўваходзяць ў склад Камітэту, выслаць па 2 прадстаўнікі з мандатамі на пленарнае паседжаньне Камітэту, якое адбудзецца ў нядзелю 23 верасьня а 4 гадзіне па паўдні ў памяшканьні Беларускай Школьнай Рады (Віленская вул. 12, п. 6). Парадак дня: 1) выбары прэзыдыуму, 2) плян далейшай працы Камітэту, 3) бягучыя справы.

Усе арганізацыі, згодна з пастановай апошняга сходу, павінны зрабіць перавыбары сваіх прадстаўнікоў у Камітэт.

16 верасьня ў м-ку Вішневе, Валожынскага пав., адбыўся мітынг. Справаздачу зрабіў пасол П. Мятла. Ня гледзячы на тое, што дзень быў ня кірмашны, народу сабралася многа, які з вялікай увагай выслухаў справаздачу пасла і выявіў пажаданьне, каб часьцей адбываліся гэткія справаздачы.

**Забастоўка драўляных работнікаў у Вішневе.** У лясных прадпрыемствах Якуба Цырынскага распачалася забастоўка. Работнікі дамагаюцца павялічэньня заработнай платы, паляпшэньня варункаў працы, прыняцьця звольненых адміністрацыяй сябраў проф. саюзу, які нядаўна там зарганізаваўся. У Вішнева прыяжджаў з Вільні інспэктар працы, але да паразуменьня не дайшло. Палажэньне дужа паважнае. Адміністрацыя заводу хоча замяніць бастуючых работнікаў штрэйкбрэхерамі. Паліцыя аднастаронна падтрымлівае капіталіста і пагражае забаставаўшым работнікам. Работнікі моцна стаяць ў абароне сваіх правоў.

Міністэрства ўнутраных спраў зацьвердзіла ўставу аб спэцыяльным падатку ад зямлі для самаўрадаў у Брацлаўскім і Вялейскім паветах.

Віленская Дырэкцыя Поштаў і Тэлеграфаў пастанавіла ў хуткім часе наладзіць беспасрэдную тэлефонную лінію Вільня — Глыбокае і адтрымала на гэтую мэту адпаведныя крэдыты.

У надзелю 16 верасьня ў залі Віленскай Беларускай Гімназіі адбылася вечарына, наладжаная Беларускім Камітэтам дапамогі ахвярам вайны, на карысьць Беларускага Прытулку ў Вільні. Пастаўлена была пьеса Ф. Аляхновіча „Пан Міністар", з аўтарам у заглаўнай ролі. Заля была перапоўнена. Ігра артыстаў задавальняючая.

## З Беластоку.

Ужо 6 месяцаў цягнецца забастоўка работнікаў валаконнай прамысловасьці клясовага проф. саюзу ў Беластоку. Фабрыканты разам з саюзам „Praca" хватаюць ўсялякіх срэдстваў, каб зламаць забастоўку. Аднак паміма голаду і нэндзы, якія душаць забаставаўшых работнікаў—дагэтага часу гэтыя высілкі не дапялі мэты. 31 жніўня прадстаўнікі клясовага саюзу былі запрошаны да пана інспэктара працы ў справе ліквідацыі забастоўкі, але конфэрэнцыя гэтая ня дала ніякіх вынікаў. За тое вытварылася гэткае ўражэньне, што інспэктар хацеў „zbadać grunt stanowczości robotników".

Фабрыканты разам з „Pracą", бачучы моцнае становішча забаставаўшых, пастанавілі зламаць забастоўку іншым спосабам, г. ё. пры дапамозе штрэйкбрэхераў. Першы ўзяўся за гэты спосаб хьеніст п. Трылінг (старшыня Саюзу фабрыкантаў вялікай прамысловасьці), які ў добрыя часы царызму не адзін раз гэткім спосабам імкнуўся да таго, каб разьбіць работніцкую акцыю. Тым-часам аднак п. Трылінг памыліўся. Саюз „Praca" ня мае магчымасьці дастаць фабрыкантам штрэйкбрэхераў — ткачоў, бо лік ягоных сяброў мае толькі 10% агульнай лічбы ткачоў. Не запужаюць таксама работнікаў пагрозы гэтага саюзу, што выкліча некульні сотняў ткачоў з Лодзі.

4 верасьня зьявіліся да аддзелу саюзу жыдоўскіх работнікаў прадстаўнікі саюзу „Praca" з вядомым п. Юзафовічам на чале і заявілі, што калі жыдоўскія работнікі ня стануць на працу на варунках, запрапанаваных праз фабрыкантаў, саюз „Praca" пашле на іх месца штрэйкбрэхераў. Натуральна, жыдоўскія работнікі з пагардаю адкінулі гэту прапазыцыю.

5 верасьня адбылося сабраньне клясавага саюзу і ня гледзячы на штрэйкбрэхерства і ўтвораны супольны фронт саюзу „Praca" і фабрыкантаў, работнікі аднагалосна пастанавілі баставаць далей аж да перамогі.

Фабрыканты стасуюць дзікія рэпрэсыі адносна клясовых работнікаў, а іхныя энэроўскія паслугачы працуюць па 16 гадзінаў пад апекай паліцыі.

Заданьнем работнікаў ува ўсей Польшчы ёсьць матар'яльна падтрымаць беластоцкіх работнікаў у іх змаганьні. Клясавы саюз ужо разоў колькі выдаваў дапамогі, але гэта капля ў моры ў параўнаньні з сучаснымі выдаткамі. Хуткая матар'яльная дапамога неабходна, бо толькі стойкасьць можа давесьці беластоцкіх работнікаў да перамогі над фабрыкантамі і да

